# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1965

Сакавік-Красавік

Год XIII

№ 2

ЗЬМЕСТ:

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1965 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.

У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.

У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 2042 W. St. Paul Ave, Chicago 47, Illinojs, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 31 Noble Str., Toronto, Ont. Canada.

У Нямеччыне:

Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

---

УВАГА: Да ўсіх беларускіх выдавецтваў зьвертаемся з просьбай прысылаць у нашу Рэдакцыю свае выданьні газэтаў, часапісаў, друкаў. Мы будзем сыстэматычна зьмяшчаць іхні агляд і даваць рэцэнзіі.

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:

Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12. Gt. Britain.


# ON GOD'S HIGHWAY

**Year XIII** **March-April** **№ 2 (89)**

**1965**

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE., LONDON, N. 12
ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год. XIII | САКАВІК—КРАСАВІК 1965 | № 2 (89)


УЛАДЫКА ЧЭСЛАЎ СІПОВІЧ, АПОСТАЛЬСКІ ВІЗЫТАТАР БЕЛАРУСАЎ

і

РЭДАКЦЫЯ «БОЖЫМ ШЛЯХАМ»

ВІТАЕ ДАРАГІХ ЧЫТАЧОЎ, ПРЫЯЦЕЛЯЎ І ЎСІХ СУРОДЗІЧАЎ-БЕЛАРУСАЎ

ХРЫСТОС УВАСКРОС!

Такжа са

СЬВЯТАМ 25-ГА САКАВІКА!

КАБ БОГ ДАЎ НАШАМУ НАРОДУ ВОЛЮ І ПОЎНУЮ СВАБОДУ

НАШАЙ БАЦЬКАЎШЧЫНЕ!

---

Ф. Чэрнышэвіч

# *Хрыстос Уваскрос!*

*Хрыстос Ўваскрос!*
*Шумяць лясы,*
*Прырода, радасьцю адзета,*
*Паўна прывольнае красы*
*І просіць сьвета, болей сьвета!*

*Хрыстос Ўваскрос!!!*
*Руччы бягуць*
*Між гор і коцяцця ў даліны,*
*А думкі вольныя лятуць*
*Ад сну, каторым сьпяць нізіны*

*Павеяў ветрык цёпла ўсюды*
*І штосьць прыродзі ён прынёс;*
*Вясну спаткайце сьмела, людзі!..*
*Хрыстос Ўваскрос!*
*Хрыстос Ўваскрос!*

*Хрыстос Ўваскрос!*
*Душа баліць*
*І рвецца радасна так сэрцэ!*
*Няхочэш сьлёз... Жадаеш жыць.*
*Гудуць званы: — Нябудзе сьмерці!*

*Браты, запеймо песьню волі, —*
*Даволі зьдзеку, гора, сьлёз!*
*Чэкаймо пчасьця й лепшай долі!*
*Хрыстос Ўваскрос!*
*Хрыстос Ўваскрос!*

«Наша Ніва», Вільня. 7. IV. 1911. № 14.

## *Вялікодныя мэлёдыі:*

*Супрасьльскі Ірмалёгіон (1601 г.).*




*Палескі напеў (XVII стаг. з старых нотаў).*



А. ГУРЛО

# ХРЫСТОС УВАСКРОС!

Глыбокая поўнач... На небі сьвецяць зоркі, кожная з гэтых зорак, адчыніўшы ў небі ваконцэ, сваімі бліскучымі вочкамі пазірае на грэшную зямлю. Адна з іх замігае, другая пакоціцца і дзесь знікне ў нябесным прасторы. Мёртвая ціш пануе на зямлі: ўсё сьпіць пад пакрываламъ начное цемры...

Вось у паўночнай цішы загудзелі званы, і рэха ад іх зыкоў разносіцца далёка, далёка...

Пачуўшы звон, народ прабуджаецца і працёршы вочы ад сну, бяжыць туды, дзе чутны зыкі званоў. У кожнаго нейкая радасьць, кожын душою чуе, аб чым гаворацъ яму гэтые зыкі: яны віншуюць народ з вялікім Уваскрэсеньнем Хрыста.

Болей, як дзевятнаццаць сталецьцёў таму назад жыў і вучыў Хрыстос дабру і справедлівасьці. І за гэта быў распят на крыжу. Памершае цела Хрыста знялі с крыжа і пахавалі ў зямлі, а к дзьверам прыставілі войска і прылажылі печаці.

Але ні печаці ні войска не змаглі зачыніць перад усім сьветам вялікай Праўды: яна жыве вечна. І — Уваскрос Хрыстос!..

Ніхай-жэ разам з Яго вялікім Уваскрэсеньнем і ўвесь народ наш Уваскрэсьне! Ніхай скіне з сябе кайданы гора-нядолі, пагарды і здзеку і стане вольным, як павінно быць! Ніхай набліжаецца нам той час, калі кожын чэлавек будзе лічыць сябе братам другому.

*«Наша Ніва»,* 1911 г.

УЛАДЫКА ЧЭСЛАЎ СІПОВІЧ

# «Каб усе былі адно»

**Казаньне з нагоды малітваў за еднасьць Хрыстовай Царквы, Сказанае ў Вэстмінстэрскай Катэдры дня 19 студня 1965 г. ў Лёндане.**

*Дарагія Браты!*

Туга па еднасьці ў хрысьціянскім сьвеце сяньня больш наглядная чым калі. Да еднасьці нас заахвочвае сам Дух Сьвяты і палымянае жаданьне Госпада Ісуса Хрыста, які маліў свайго Айца: «Каб усе былі адно... каб сьвет мог паверыць, што Ты мяне паслаў». (Ян, 17, 21).

Тыдзень малітваў за еднасьць у гэтым годзе ладзіцца з большай пільнасьцю і энэргіяй чым дагэтуль, бо вялікія падзеі прошлага году не маглі астацца бяз уплыву на нас. А гэтых падзеяў было нямала: Экумэнічны Сабор і яго пастановы, прошча (пілігрымка) Папы Паула VI-га ў Сьвятую Зямлю, спатканьне Папы з праваслаўнымі Герархамі, паварот релiквіі (Галавы) Сьв. Андрэя Апостала на даўняе месца ў Грэцыю.

А ў мінулым годзе былі сумныя ўгодкі разьдзелу між Заходняй і Усходняй Цэрквамі.

Прайшло 910 гадоў ад часу, калі кардынал Гумбэрт, папскі легат, у часе ўрачыстай Літургіі ў саборы Сьв. Сафіі ў Канстантынопалі, дня 14 ліпня 1054 г., палажыў на аўтар бульлю, адлучаючы ад Царквы Патрыярха Міхала Керулярыя.

Было-б памылковым звальваць увесь цяжар адказнасьці за тую сумную падзею на грэцкіх Герархаў і наагул на грэкаў, хаця і яны няраз грашылі супраць еднасьці Царквы. Ня менш трэба вініць і кардынала Гумбэрта: гісторыя сьведчыць, што ён паступаў самавольна і таму адказнасьць за яго неразважны крок ня можа падаць на Рымскі Пасад, дзе ў тым часе ня было нават Папы, бо Леў IX памёр тры месяцы перад тою няшчаснаю датай — 19 красавіка 1054 г.

Хаця сумная падзея 1054 г. ў Канстантынопалі была вельмі трагічнай, аднак трэба згадзіцца з тым, што было шмат яшчэ іншых прычын, якія давялі хрысьціянскі сьвет да прорвы разрыву. Сярод іх трэба ўспомніць: а) падзел рымскай імпэрыі і б) заснаваньне новае сталіцы над Басфорам праз імпэратара Кастуся Вялікага ў 330 г.

Гэтая ўсходняя рымская імпэрыя праіснавала больш 1000 гадоў.

Калі на саборы ў Халькідоне (451) Канстантынопаль пачаў сягаць па годнасьць Новага Рыму, дык Пятровы Пасад — Стары Рым — быў заняты важнейшай справай, бо трэба было вучыць і хрысьціць варвараў. Канстантынопальскі Патрыярх меў добрую нагоду больш унезалежніцца ад Рыму. Хуткі і востры адбой Папы Сьв. Льва Вялікага адносна 28-га канону Халькідонскага Сабору ня быў дастатковым. (Глядзі: Mansi, VII, 357; Migne, PL, 54, 995).

Ніхто не запярэчыць, што на Канстантынопальскім Пасадзе ні раз былі сьвятыя і вучоныя адзінкі: Сьв. Ян Златавусны, Сьв. Тарас, Сьв. Грыгор з Назіянзу і інш., — але ані веліч Сьвятых, ані гордасьць і хістаньні людзей меншага калібру, не маглі зьмяніць тое плыні падзеяў: Рым і Канстантынопаль паступова, але рашуча аддаляліся ад сябе, а недавер і неразуменьне павялічваліся.

Гэтая апрычонасьць расла таксама і дзеля іншых прычынаў, між якімі мы бачым уваход на палітычную арэну новае сілы — Ісляму: таксама розьніца мовы і абрадаў, розьніца — запраўдная або толькі слоўная — ў багасловіі між лацінскай і грэцкай Царквою.

Хіба ня што іншае меў на думцы Патрыярх Атэнагорас, як толькі гэты сумны пэрыяд падзелу, калі пры спатканьні з Папам Паўлам VI, 5 студня 1964 г. сказаў: «Стагодзьдзямі жыў хрысьціянскі сьвет у ночы падзелу. Яго вочы замучыліся гледзячы ў цемру...» (Il Pelegrinaggio di Paolo VI in Terra Santa, Libreria Editrice Vaticana, p. 90).

Ад 1054 да сяньня няраз былі робленыя паважныя спробы злучэньня, асабліва ў часе Сабораў Ліёнскага II-га і Флёрэнтыйскага. Таксама і ў нас на Беларусі ў канцы XVI стаг. (Берасьцейскі Сынод 1596 г.). Аднак гэтыя спробы не змаглі засыпаць тае страшэннае прорвы падзелу, якую выкапалі стагодзьдзі паміж дзьвюма вялікімі хрысьціянскімі сем'ямі.

Сяньня налічваем каля 150 мільёнаў — грэкаў, сэрбаў, баўгараў, румынаў, беларусаў, украінцаў, расейцаў і іншых народаў, якія называюць сябе праваслаўнымі, а якіх мы, каталікі, называем нашымі адлучанымі братамі.

Было-б дастатковым разважыць тую сьвятую малітву Госпада перад Яго сьмерцю, якою маліў свайго Айца: «Ойча, хай усе будуць адно». Гэта нас саміх пабуджае да шчырае дзейнасьці дзеля злучэньня хрысьціян.

Аднак наша руплівасьць можа яшчэ больш ажывіцца, калі мы затрымаемся над сумнымі вынікамі падзелу.

Вось важнейшыя з іх:

Шкоднае спаборніцтва і спрэчкі пры навучаньні Евангельля ў краінах місіяў, а таму сумнівы і недавер да місіянераў і іхняе навукі.

Аслабленьне ў сьвеце духовае сілы хрысьціянства супроць такога зла, як бязбожны камунізм.

Аслабленьне веры і пабожнасьці між хрысьціянамі.

Пашырэньне атэізму ў хрысьціянскіх краінах і незадаваленьне ў душах тых людзей, што імкнуцца шчыра знайсьці праўду.

Можна было-б назваць яшчэ больш сумных фактаў, што зьяўляюцца вынікам падзелу сярод хрысьціянаў.

Усе яны крычма крычаць аб скандале падзелу між пасьлядоўцамі Хрыста. Таму адзін з пратэстанскіх дзеячоў, праф. Мк Афээ Бровн, меў слушнасьць, калі казаў: «Зьвяртацца з заклікам да сьвету, каб ён аб'яднаўся ў супольным цэнтры, якім ёсьць Ісус Хрыстос, гэта пусты гук, бо тыя што заклікаюць, нязадольныя аб'яднацца паміж сабой».

*Дарагія Браты!*

Хаця стан хрысьціянства сьвету ёсьць сумна-трагічным у сьвятле Хрыстовых праўдаў, а таксама дзеля велічы і актуальнасьці сучасных праблемаў, аднак не падаймо духам! Шмат душаў сяньня моляцца і працуюць над загаеньнем ранаў Хрыстовай Царквы. Шмат таксама зрабіў у гэтым напрамку Ватыканскі Сабор, якога праца яшчэ не закончаная.

У дэкрэце аб экумэнізьме, што блізу аднагалосна быў пацьверджаны Папам Паўлам VI і Айцамі Сабору на III-яй Сэсіі, мы знаходзім асноўныя прынцыпы, якія трэба пазнаць кожнаму хрысьціяніну. Гэта нам дапаможа ў апостальстве для царкоўнае еднасьці.

Першы і галоўны прынцып таго дэкрэту ёсьць: толькі адна Каталіцкая Царква мае паўнату ласкі і праўды, якія неабходны для збаўленьня душы.

«Госпад даверыў — чытаем у дэкрэце — ўсе дабрадзействы Новага Запавету вылучна Апостальскай Калегіі, якой Пётр ёсьць галавою. Гэта ўсё таму, каб устанавіць адзінае Хрыстовае Цела на зямлі, да якога павінны далучыцца ўсе тыя, што якімколечы спосабам ёсьць Божым народам».

«Вось-жа Царква ёсьць Божае стада: яна быццам той сьцяг падняты ўгору, каб бачылі ўсе народы: яна нясе ўсяму чалавецтву Евангельле супакою ў час сваей зямной пілігрымкі з надзеяй асягнуць бацькаўшчыну на вышынах. (Пар. Із. 11, 10—12: Эф. 2, 17—18: Мк. 16, 15: I Пятра 1, 3—9).

Другі важны прынцып Саборнага Дэкрэту ёсьць:

«Усе тыя, што веруць у Хрыста і ёсьць праўдзіва ахрышчаныя, ўжо цяпер знайхо-

дзяцца ў сапраўднай еднасьці з Каталіцкаю Царквою, хаця іхняя лучнасьць ёсьць недасканалай і няпоўнаю».

У сілу гэтага прынцыпу ўсе тыя, што былі важна ахрышчаныя, маюць поўнае праваназывацца хрысьціянамі і ўсе яны ёсьць нашымі братамі ў Хрысьце.

Але ня толькі гэта! Дэкрэт зьмяшчае шмат больш:

«Вонках Каталіцкай Царквы могуць існаваць: пісанае Божае слова, жыцьцё ласкі: вера, надзея і любоў — разам з іншымі ўнутранамі дарамі Сьвятога Духа, а такжа пэўныя бачымыя элементы. Усё гэта выходзіць ад Хрыста і вядзе назад да Яго, бо належыць да аднае і тое самае Хрыстовае Царквы . . .»

Аб Усходніх Цэрквах (не каталіцкіх) дакумант Ватыканскага Сабору кажа яшчэ больш і ясьней. Гэтыя Цэрквы «хаця і аддзеленыя ад нас, маюць праўдзівыя Сьв. Тайны (Сакраманты), а перадусім — у сілу апостальскага насьледзтва імі захаванага — сьвятарства і Эўхарыстыю, таму яны астаюцца спалучаныя з намі вельмі цесна».

«Хрысьціяне Ўсходу ў сваім літургічным кульце ў прыгожых гімнах і малітвах аддаюць глыбокую чэсьць Марыі Дзеве, якую Сабор у Эфэзе абвесьціў Маткай Бога . . . Такжа нямала ёсьць Сьвятых, якіх яны славяць, а сярод якіх ёсьць Айцы сусьветнай Царквы. Больш таго: на Ўсходзе знаходзяцца багацьці духоўных традыцыяў, што праявіліся ў нашым жыцьці. Багатая літургічная і духовая спадчына Ўсходніх Цэркваў павінна быць прызнаваная, шанаваная, захоўваная і цэненая».

Айцы Ватыканскага Сабору, аддаючы гэтак глыбокую пашану Ўсходняй Царкве — нажаль разьеднанай з Каталіцкай — не забыліся падкрэсьліць, што выхваляная імі спадчына зьяўляецца поўнасьцю каталіцкай і апостальскай і належыць да адзінай Хрыстовай Царквы і што шматлікія вернікі каталікі ўсходніх абрадаў імкнуцца астацца вернымі той спадчыне і кіравацца ёю ў сваім жыцьці.

Мы маем такжа адумысловы Дэкрэт Сабору, які выключна адносіцца да Каталіцкіх Цэркваў усходняга абраду.

Дык ня дзіва, што пасьля гэтулькі пахвалаў і важных заяваў Ватыканскі Сабор пры канцы свайго Дэкрэту аб Экумэнізьме зьвяртаецца да сьвятароў і вернікаў Каталіцкай Царквы, каб яны стараліся навязаць цясьнейшую лучнасьць з тымі не-каталікамі, што былі змушаныя нейкім спосабам пакінуць сваю радзіму і шукаць прыпынку на Захадзе. Трэба навязаць адносіны з гэтымі людзьмі ў духу любові, без ніякай зайздрасьці і прозэлітызму.

*Дарагія Браты!*

Шчырыя натугі сучасных папаў і праваслаўных Герархаў, урачыстыя і вельмі ясныя дэкрэты Экумэнічнага Сабору, харытатыўная дзейнасьць і аб'ектыўна-спакойная праца вучоных, гарачыя малітвы вернікаў — усё гэта вядзе да жаданай усімі *Еднасьці.*

Добры Папа Ян XXIII ў сваім Пасланьні да Біскупаў славянскіх народаў казаў:

«Тое, што нас (каталікоў і праваслаўных) аб'ядноўвае ёсьць шмат большым, чым тое, што нас дзеліць. Абедзьве стараны павінны цяпер прыкладаць дарогі і то салідна. Калі будзе ўзаемнае зразуменьне і братняя любоў, дык будзе асягнуты пажаданы вынік.

Палымянае жаданьне споўніць волю Бога ўсё падмацоўвае, усяго спадзяецца, ўсё вытрымоўвае».

А м а н .

---

Гэтым падаецца да ведама, што **Беларуская Школа для Хлапцоў імя Сьвятога Кірыла Тураўскага ў Лёндане** пачала прыём кандыдатаў на 1965-66 навучальны год.

У школу могуць быць прынятыя хлопцы беларускага паходжаньня ў веку ад 8 да 12 гадоў.

Лік вольных месцаў у школе вельмі аграніччаны. Дзеля гэтага зацікаўленыя бацькі ў сваім собскім інтарэсе павінны зьвярнуцца да кіраўніка школы ў як найхутчэйшым часе. Каб унікнуць непатрэбных затрымак і непаразумленьняў, бацькі павінны адразу падаць імя і дакладную *дату нараджаньня сына*, а таксама прыслаць арыгінал або копію апошняга *школьнага пасьведчаньня.* Апошні тэрмін складаньня заяваў мінае 31-га траўня 1965 г. для кандыдатаў з Эўропы і 30-га красавіка для кандыдатаў з заморскіх краінаў.

У ўсіх справах зьвязаных з школаю пісаць на адрас:

The Rev. Headmaster,
St. Cyril's House,
41 Holden Road, London, N. 12.



*Саборная Літургія ў базыліцы Сьв. Пятра ў Рыме дня 13, XI, 1964, пасьля якой Папа Павал VI палажыў сваю тыяру на аўтар, як дар для ўбогіх.*

*На здымцы Яго Дастойнасьць Біскуп Чэслаў Сіповіч разам зь іншымі ўсходнімі Герархамі атрымаў багаславенства Сьв. Айца.*

*З правай стараны ля нашага Біскупа — з крыжам на грудзях — Біскуп Дантэ, папскі кіраўнік абрадаў, нядаўна назначаны кардыналам.*

*Сярод іншых Дастойнікаў мы бачым архібіскупа Букатку (украінец з Югаславіі), Мітрап. Аккара і Біскупа Крістэа.*

а. Я. ГЭРМАНОВІЧ

# МАЕ ПРЫЯЦЕЛІ

## АЛЯКСАНДАР АСТРАМОВІЧ (АНДРЭЙ ЗЯЗЮЛЯ)

**26, XI, 1878 — 17, I, 1821**

Мае ўспаміны аб Ал. Астрамовічу будуць даволі скупыя, хоць ён — мой суродзіч вельмі блізкі. Нарадзіўся ён і гадаваўся ў сялянскай сям'і, у вёсцы Навасяды, якая належала да Гальшанскай гміны і парахвіі, у 7-мі вёрстах ад майго мястэчка Гальшаны.



У 1910 годзе летам я быў госьцем у Астрамовіча. Помню вёску Навасяды: вярсты дзьве ад Ашмянскага тракту ў бок захаду, на адкосе касарогу. Уздоўж вёскі праплывае ручай з паўдзённай стараны, а хаты пабудаваныя з паўночнага боку і гароды цягнуцца з поўначы на поўдзень, перасякаюць вуліцу і ідуць да ручая. Так што кожны гаспадар мае ў сваей паласе поле, пасьля гаспадарскія будынкі, вуліцу, гарод, луг і далей поле...

Уся ваколіца вельмі разнаякая: ўзгоркі, касагоры, даліны. Ручай абросшы дрэвамі і кустамі; купіны дрэваў — на лысых узгорках. А сама вёска ўся ў гародчыках і садох: словам, ваколіца надта ажыўленая, прыгожая і вясёлая. Хаты — зьверненыя на паўдзень — маюць сонца з усходу рана, а з заходу — па паўдні, проста, купаюцца ў сонцы!

Ня дзіва, што вёска Навасяды самая ажыўленая і пявучая на ўсю акругу. І ня дзіва, што Алесь Астрамовіч з маленства быў пявуном і любіў музыку.

Ён прайшоў практычна праз усе стадыі вясковага гаспадарскага жыцьця і доўга працаваў у гаспадарцы. Знаў усю гаспадарскую тэхніку, назовы прыладаў — аж да найдрабнейшых жаночых падрабязнасьцяў, што пасьля жыва, зь вялікай любоўю і паэтычна прадстаўляў у сваіх вершах, у якіх апісываў гаспадарскую працу на кожны месяц году — на полі, ў хаце, ў гародзе, пры лёне, ў ткацтве, ў хатніх адносінах — у вясельлі ці ў смутку.

Скончыўшы гарадзкую школу ў гор. Ашмяне, Астрамовіч толькі пасьля вайсковай службы і пасьля вялікіх клопатаў у прыгатаваньні здолеў у 1905 годзе, маючы 27 гадоў, уступіць у духоўную сэмінарыю ў Пецярбурзе. У Вільні, якая была натуральным асяродзьдзем каталіцтва, Астрамовічу не ўдалося трапіць у сэмінарыю: ён быў занадта ясны ў нацыянальнай сьведамасьці і гэта калола ў вочы духоўныя ўлады, якія былі настроеныя няпрыхільна да беларусаў.

У пецярбурскай сэмінарыі пануючы дух ня быў такі рэзкі як у Вільні: так, апрача спольшчаных беларусаў, былі летувісы, латышы, немцы і частка сапраўдных палякаў. Дык вось знайшлася магчымасьць сьведамым беларусам працаваць без баязьні шовінізму.

Астрамовіч ніколі ў сваей сьведамасьці і любові Бацькаўшчыны не захістаўся і дзеля таго ня меў зразуменьня і падтрымкі ў значнай частцы ўлады духоўнай, а падпадаў пад падазрэньне і нават ціхі прасьлед і нацiск.

З свайго характару і з вайсковай шліфоўкі ён вырабіў моцны, рашучы і адважны спосаб жыцьця: быў добрым і вытрывалым арганізатарам, разумным прапагандыстам і вымоўным аратарам. У беларускім кружку ў сэмінарыі яго заўсёды выбіралі кіраўніком: фактычна ён быў душою беларускага жыцьця і працы.

Гэта вельмі не падабалася польскім дзеячом і праз іх інтрыгі Астрамовіч ледзь здолеў дастаць, хоць з апазьненьнем, духоўныя пасьвячаньні; а пасьля ледзь здолеў вярнуцца з самай далёкай духоўнай пляцоўкі, на Камчатцы!

*

Зь вялікім жалям мушу прызнацца, што з такім блізкім суродзічам-суседам Астрамовічам я мала зыйшоўся; а пасьля толькі знаў яго зь літаратурнай працы. Прычынаў было некалькі: паміж намі была значная розьніца веку. Калі я быў госьцем у Навасядах, я

тады меў 20 гадоў, а Астрамовіч — 32 гады. I пасьля не здарылася мне зь ім спатыкацца А як пачалася вайна і пашла рэвалюцыя, нашыя дарогі ўжо ніколі ня зыйшліся. I толькі, пасьля немалых гадоў я даведаўся, што Астрамовіч ня жыве: памёр, маючы толькі 43 гады.

Якая была прычына сьмерці, ня ведаю. Также, дзе памёр і дзе быў пахаваны. Мусела здарыцца штосьці цяжкое, ці наглае, што такі здаровы чалавек, загартаваны працай фізычнай у вясковым асяродзьдзі, памёр у поўнай сіле веку... Магчыма, што час рэвалюцыі, недастатку і, магчыма, голаду падарваў яго здароўе, бо памёр ён у зоне савецкай.

Нявысокага росту, але моцна зьнітаваны, вёрткі, рухавы, станоўкі — ён адразу ўводзіў іншых, нават самых марудных і лянівых, у рухомасьць і паддаваў агню тым, што маглі астыгнуць і апусьціцца. Такія цэнныя адзінкі пакідаюць значны сьлед у грамадзкім жыцьці, але такіх уласна раптоўныя буры ламаюць у першую чаргу і зьмятаюць з аблічча зямлі. I Астрамовіч мусеў — у змаганьні з шалёным савецкім строем — зьгінуць сьмерцяй няшчаснага беларускага патрыёта.

Ал. Астрамовіч быў з маладых гадоў песьняром беларускай прыроды і красы, сялянскага жыцьця і працы, долі і нядолі. Ягоная жывая, энэргічная душа выяўлялася ў кожным вершы, у якіх ён клікаў народ да адраджэньня, да поступу, да працы і радасьці жыцьця. Вера ў Бога і Народ, надзея на ўласную нашую здольнасьць і энэргію, а найбольш сардэчная любоў да Бацькаўшчыны — Беларускага Народу — вось прыкметы дзейнасьці і паэзіі Аляксандра Астрамовіча, сапраўды народнага паэты.

Нават ягоная фамілія паказвае на асаблівае прызнаньне песьняра («астра» — з лац. зорка): ён быў зоркай яснай, рухомай, моргаючай, пуцяводнай для сучасных людзей і для будучых пакаленьняў, каб ня гібелі ў імгле, ў цемры немарасьці жыцьця.

Псэўдонім паказвае на бліжэйшую мэту паэты: ён — Андрэй Зязюля — як сапраўдная зязюлька — будзіць людзей, весяліць іх і падае ім надзею лепшага жыцьця, варожыць шчасьце, якое, хоць яшчэ далёкае — прыйдзе немінуча!

Паэзія Астрамовіча-Зязюлі друкавалася ў розных тагачасных часапісах, найбольш у «Беларусе» ў 1913-1915 г.: там ішоў цэлы цыкль яго «гаспадарскай» паэзіі. Выйшлі зборнікі «З роднага загону», «Слова праўды» і «Аленчына вясельле». Але вялікая частка асталася на руках прыяцеляў — нядрукаваная і, вельмі шкада, што пэўна загінула падчас войнаў і рэвалюцыяў.

Прашу ўчытацца ў замешчаныя вершы: тут паэзія нашага бойкага дзеяча і гарачага патрыёта, які сваей лірай парушыў самыя глыбокія струны сваей і беларускай душы нашага Народу.

I прашу прыгледзіцца на замешчанае фото: Зязюля бойка і пранікліва глядзіць на чытача, а ягоны падняты адважна чуб, здаецца, заклікае за сабою: «Наперад!» А крыжык прыпамінае: «З Богам!»

# Зь паэзіі Андрэя Зязюлі

*На пакладзе ў сьвіронку*
*Напаткаў я ліронку,*
*Што ўкурэўшы ляжала*
*I бутвець пачынала.*

*Вось абцёршы ад плесьні,*
*Дай-жа родныя песьні*
*Запяю, заіграю,*
*Каб у родненькім краю*

*Са сну кожан прачхнуўся,*
*Моў арол страпянуўся,*
*На духу адсьвяжыўся*
*I ў жыцьці адрадзіўся.*

*Ну, дык грай, мая ліра!*
*Міла, жаласна, шчыра —*
*Ў вёску, двор, аднасельле*
*Лій сьвятло і вясельле.*

*Грай радзімай старонцы*
*А прыгожай вясёнцы,*
*Што як зорачка ясна*
*К нам ідзе доля шчасна.*

*

*Старонка мілая, Ты многімі забыта,*
*Шмат сьпіць сыноў Тваіх адвечным сном!*
*Зямелька родная, сьлязьмі і потам зьліта —*
*Мы да жыцьця з Табой узноў уваскрасьнём.*

*Хоць знойдзецца ў Табе выродны валакіта,*
*Катораму Твая не да спадобы сьвіта*
*І не адзін прадасьць Цябе Іскарыёт,*

*Але Табе яшчэ ўсё-ж, маці семяніта,*
*Сяляне — верныя, што сеяць жыта,*
*А зь іх паўстане Твой Народ.*

*

*Веру моцна, што зь вясной*
*Сонца праўды ўстане*
*І прабудзецца Край мой*
*Зь векавога спаньня.*

*Веру моцна — слова ў чын*
*Зьменіцца паволі*
*І убачыць селянін*
*Луч шчасьнейшай долі.*

*

*Над гонар і славу, над чары каханьня*
*Народную справу і пераканаsuccessьне,*
*Што розум дыхтуе заўсёды я волю —*
*Ня здраджу ніколі.*

*Хай срэбра, дукаты мне сыпяць пад ногі*
*І скажуць: багаты будзь, кінь род убогі,*
*Я плюну з пагардай, народу-ж і волі —*
*Ня здраджу ніколі.*

*Да самага скону, усякім прымусам*
*І сіле прыгону скажу: Беларусам*
*На век астануся, сваей ўласнай волі —*
*Ня здраджу ніколі.*

*

*Дыхануў сухавей*
*У пагодлівы дзень,*
*Скалыхнуўшы травіцай няроўнай:*
*У ляску салавей,*
*Захаваўшыся ў цень,*
*Захліпаецца песьняй чароўнай.*

(*«Моладзь»*, Парыж Студзень 1949, № 7)

---

УВАГА!

Зязюля ня толькі ўмее пяяць, ён умее складаць прысягу свайму народу і быць ёй верным аж да сьмерці.

Любую беларускую прыроду апісвае ён з сардэчнай чароўнасьцю і каханьнем.

*Маркотны і просты вазонік гліняны*
*Ў крывава-чырвоны узор маляваны,*
*А ў ім расьце кветка і ўсё на лісточкі*
*Раняе, як сьлёзкі, чырвоны цьвяточкі,*
*І ўсё пазірае смутліва ў ваконца,*
*Чакаючы сьветлых праменейкаў сонца.*

*Бяздольная кветка, табе спагадаем*
*Мы шчыра, бо самі усьцяж паглядаем*
*Ў закурана цьмою адвечнай ваконца,*
*Чакаючы сьветлых праменейкаў сонца,*
*І верым, што скора яно ўжо праз хмары*
*Зірне і разгоне ўсе сонныя мары.*

(*«Наша Ніва»*, № 37, 9 IX 1910)

## «НАШАЙ НІВЕ» Ў СЁМЫЯ ЎГОДКІ

*Беларусы. Вам, браточкі,*
*З сэрца ахвярую*
*Гэтых вершыкаў радочкі —*
*Дань сваю малую.*

*Рада хата, чым багата,*
*Вось і я, чым маю*
*Тым дару вас: дасьць Бог сьвята,*
*Болей насьпяваю.*

*Любы мне куток радзімы,*
*— Беларусь сьвятая,*
*Дзе радзіліся, расьлі мы,*
*Дзе нас ўсё вітае.*

*Люба родная гаворка,*
*— Думам нашым сьвіта:*
*Зь ёй ці соладка, ці горка*
*Мы жывём і квіта.*

*Любы родныя апраткі,*
*Норавы і звычкі,*
*Песьні, казкі і калядкі,*
*Люб' наш род мужыцкі.*

*Люба родная газэтка,*
*Крайнічык ядыны,*
*«Наша Ніва» сямілетка,*
*Чэсьць нашай краіны.*

*

*Дык паслухай-жа, браточак,*
*Гэтакае рады:*
*Палюбі ты свой куточак,*
*Мову, строй, абрады.*

Г. ПІХУРА

# Князіня Магдалена Радзівіл

Дваццаць год таму, 6-га студзеня 1945 г., у Фрыбургу ў Швайцарыі, памерла князіня Магдалена Радзівіл, пражыўшы 85 гадоў. Старэйшае пакаленьне беларусаў, якое ба-



чыла і пражыло падзеі 1917-1918 г., яшчэ памятае тую ролю, якую яна адыграла ў беларускім нацыянальным руху.

Магдалена Радзівіл была адной з найбольш маляўнічых фігураў навейшай беларускай гісторыі. Нарадзілася ў Варшаве 8-га ліпеня 1861 г. Бацька яе, граф Завіша-Кежгайла, паходзіў з знатнай літоўска-беларускай сям'і і быў вялікім патрыётам. Любіў ад- ведваць сялянаў, якія жылі на ягоных землях у Жарноўцы і Кухцічах і гутарыць з імі ў роднай беларускай мове. Маладая Магдалена, чые раньнія гады жыцьця прайшлі ў гэтых маёнтках, хутка ня толькі навучылася ад бацькі любіць беларускі народ, але пачала пачуваць сябе беларускай. Маці Магдалены, Марыя, з дому графіня Хвілецкая, была пераканананай полькаю. Ейныя касмапалітычныя нахілы цягнулі яе хутчэй да Парыжа ці Лёндану, чым да беларускіх вёсак мужа.

Дзяцінства Магдалены прайшло пад апекаю францускіх і ангельскіх гувэрнантак, якія ўпаілі ў яе любоў да францускай цывілізацыі і да літаратуры. Яна атрымала ўзгадаваньне вялікай дамы «du siécle de lumiére» і такой яна асталася да канца жыцьця.

У 1881 г. Магдалена выйшла замуж за графа Людвіка Красінскага, брата ведамага польскага паэта. У іх нарадзілася дачка Люіза, пазьней графіня Чартарыская. Красінскі памёр у 1895 г. Пасьля сьмерці мужа Магдалена шмат падарожнічала па Эўропе. У 1906 г. ў Лёндане яна выходзіць другі раз замуж за князя Міколу Радзівіла, вялікага эксцэнтрыка і масквафіла, дваццаць гадоў малодшага за яе. Шлюб адбыўся ў каралеўскай Баварскай капліцы.

У гэтым самым часе наступае зрыў адносінаў паміж Магдаленаю і польскім грамадзтвам, якое досыць няпрыхільна адносілася да ейнага мужа.[1] Яна аддаецца поўнасьцю ідэі незалежнасьці Беларусі і ўстанаўленьню добрых адносінаў між беларусамі і іхнымі суседзямі летувісамі і ўкраінцамі.[2]

Хутка пасьля выбуху сусьветнай вайны, 30-га лістапада 1914 г., Мікола Радзівіл згінуў у Ўсходняй Прусіі. Магдалена цяпер праводзіць свой час або ў сваіх маёнтках, або ў Менску ў доме на Захараўскай вуліцы. У 1918 г. яна была змушаная ўцякаць з Беларусі перад бальшавіцкімі акупантамі. Сьпярша пасялілася ў Варшаве, але ў 1922 г. пераяжджае ў Коўна, а адтуль — у Нямеччыну, дзе аддаецца ўсё больш і больш дабрачыннай дзейнасьці. Надыход фашызму, да якога яна чула поўную пагарду, змусіў яе шукаць новага прыстанішча ў Швайцарыі. У 1932 г. пераяжджае ў Фрыбург, дзе пасяляецца ў манастыры сясьцёр даміниканак. Там аставалася да самае сьмерці.

Магдалена Радзівіл была да канца вернай сваім ідэалам. Будучы беларускай, зрабіла таксама шмат дабра і для летувісаў. Удзячны летувіскі ўрад узнагародзіў яе вялікім крыжам ордэну Гедыміна. Згодна з яе апош-

*Ты сваім гардзіся родам,*
*Не жадай другога,*
*Бо ён злучаны з народам*
*Краю дарагога.*

*Ня чурайся «Нашай Нівы»*
*І чытай што тыдня,*
*А зь ёй будзеш ты шчасьлівы,*
*Ўсьцеражэшся злыдня.*

✱

*Дык жыві-ж ты, сямілетка,*
*Й восьмы год шчасьліва,*
*Улюблёная газэтка*
*Ўсімі «Наша Ніва»!*

*Разганяй сьвятлом навукі*
*Цемру ў родным краю,*
*Каб сыны яго і ўнукі*
*Дачакалі раю!!!*

(*«Наша Ніва»*, № 46, 16 XI 1912)

няю воляю ў яе дамавіну былі паложаны адзнакі з Вялікага Літоўскага Княжства, якія яна высока цаніла на працягу ўсяго свайго жыцьця.

Магдалена Радзівіл была сярэдняга ўзросту. Яе фігура была поўная павагі і нават маестату. Нават у старасьці захавала вялікую прыгожасьць, з клясычным прафілям, шэрымі вачамі і белымі валасамі. Яна любіла падарожнічаць і чытаць, але найлепш ёй падабалася вязаньне каронак, у чым выказвала нямала мастацкага таленту.[3]

Ад дзяцінства Магдалена Радзівіл была вялікай беларускай патрыёткай. Яна ніколі ня скрывалася з сваей нацыянальнасьцю. Калі графіня Караставец, ейная шматгадовая прыяцелька, аднойчы зрабіла ў гэтым памылку, Магдалена адразу яе паправіла. «Не! — быў яе горды адказ — я беларуска».

Як і яе бацька, княгіня Магдалена не адчувала вялікай прыхільнасьці да палякаў (што вельмі злавала некаторыя польскія кругі) і, дзе магла, старалася не гаварыць на іхняй мове. Яе адносіны да расейцаў былі падобныя. З сваімі прыяцелямі гутарыла па беларуску, або па францускі. Сярод ,ўрапэйскай арыстакрацыі яна была ведамая як дзівачка, што аддалася справе «беларускіх мужыкоў».

Для гэтых «мужыкоў» і для беларускіх нацыянальных дзеячоў яна сапраўды рабіла ўсё, што магла, каб заахвоціць усе пласты беларускага насельніцтва карыстацца як найбольш роднаю моваю. Беларуская мова была абавязковай у яе ўсіх маёнтках.

Асабліва Магдалена цікавілася пытаньнем асьветы моладзі з мэтаю ўзгадаваньня беларускіх інтэлектуальных кадраў. На абшары яе валоданьняў у вёсках Кухнічы, Каменна і Узда яна загадала адчыніць беларускія школы.[4] Яна давала грашовую дапамогу і стыпэндыі беларускім студэнтам у Вільні і іншых унівэрсытэтах. Няраз казала: «Я грошай для маіх беларусаў не шкадую».

Асабліва блізкай яе сэрцу была справа ўзгадаваньня беларускіх сьвятароў. Яна ўспамагала грашова маладых беларускіх сэмінарыстаў і прыракла айцу (пасьля архімандрыту) Ф. Абрантовічу вялікую суму на залажэньне беларускай (вуніяцкай) калегіі ў Рыме. Нажаль з гэтага праекту нічога ня вышла, бо маемасьці, з якіх мелі чэрпацца на гэта фонды, папалі ў рукі бальшавікоў.[5] Часапіс «Беларус», які друкаваўся лацінкай, выходзіў дзякуючы шчодрай дапамозе княгіні, якая пакрывала дэфіцыт.[6]

Магдалена Радзівіл іграла паважную ролю ў беларускім палітычным жыцьці і была шчырай прыхільніцай БНР. Яе дом у Менску і маёнтак у Кухцічах былі ўлюбёным месцам зборак беларускіх дзеячоў (да 1918 г.). Яна была ў прыяцельскіх зносінах з Скірмунтам. Яе наведвалі такія дзеячы, як Іваноўскі, Ластоўскі, Уласаў і браты Луцкевічы: усім ім яна давала маральную падтрымку і грашовую дапамогу.[7]

На выгнаньні Магдалена Радзівіл таксама не забывалася аб беларусах. З Нямеччыны і Швайцарыі яна слала дапамогу беларускім студэнтам і ўспамагала беларускія арганізацыі ў Вільні.

Калі насьпеў час для народу ўтварыць армію, каб абараняць нядаўна абвешчаную незалежнасьць свайго краю, княгіня Радзівіл на ўласны кошт ахвяравала азброеньне для некалькі аддзелаў.

Магдалена Радзівіл памерла, калі ейная бацькаўшчына Беларусь сталася зноў ахвяраю вайны і зьдзеку. У часе, калі ўвесь сьвет быў ахоплены жахам сусьветнай вайны, сьмерць гэтае жанчыны ў ціхім манастыры ў Швайцарыі прайшла амаль незаўважанаю. Няма аднак сумніву, што прыйдзе час, калі беларусы будуць успамінаць з гордасьцю імя гэтае вялікай дачкі свайго народу.

---

[1] Michał Pawlikowski: „Dzieje i młodość Tad. Irteńskiego". London 1959, pp. 181-183.

[2] Cf. K. Matulaitis: „Londono Letuvini" Mariumpole 1939, pp. 73-74; „Lietuvu Enciklopedija" vol. I, Boston 1953, p. 343; Ibid. vol. XXIV, Boston (Mass.) 1961, p. 379.

[3] Гэтыя біяграфічныя лісткі я атрымаў ад графіні Ст. Замойскае. Яна мне такжа прыязна паказала напісаныя рукою кн. М. Радзівіл Успаміны (толькі нататкі), за што Ёй на гэтым мейсцы выказваю шчырае прызнаньне і падзяку.

[4] Cf. J(ustyn) M(uraška): „Kniahinia Mahdalena Radziwił — Uspaminy". — Studencki Klič, № 1/15. München 1947, p. 10.

[5] Чэслаў Сіповіч: «Айцец Архімандрыт Абрантовіч» — Божым Шляхам, № 78-81, Парыж, 1957, п. 12

[6] J. Muraška op. cit. p. 9.

[7] Ad. Stankievič: „Bieł. Chryścijanski Ruch" — „Chryścijanskaja Dumka", № 12 (160), Vilnia. 1938, st. 5.

# БЕЛАРУСКАЯ ГРАВЮРА У ДРЭВЕ (XVI - XVII ст.)




*Памазаньне Давіда на царства*

(I Царств. 16, 13)




*Бабілёнскі цар Набухаданозар здабывае Ерузалім*

(I Царств. 24, 10-12)

Гэтая гравюра адзначаецца выдатнасьцю кампазыцыі і глыбінёй пачуцьцяў. Пабожныя і задумчывыя паставы прарока Самуіла, патрыярхаў і хлапца Давіда надаюць усёй сцэне дух павагі і малітвы. Асаблівую цікавасьць мае багацьце і разнаякасьць вопратак гледачоў. Два «ляндскнэхты» на пярэднім пляне напамінаюць нам фігуры з абразоў Гольбайна. Сярод рэнэсансавых капялюшоў і галаўных убораў кідаецца ўвочы калматая шапка. Рыцар на пярэднім пляне з правай стараны трымае ў руках Ягельлёнскую карону.

Скарына прадстаўляе тут па мастацку абраз бітвы паміж Набухаданозарам і сынамі Ізраіля перад мурамі Ерузаліму.

Ізраэліты, апранутыя ў зброю літоўскіх (беларускіх) рыцараў, выяжджаюць цераз гатыцкія вароты за горад, каб даць адпор войскам Набуханадозара. Бабілёнцы, у востра закончаных шлемах і з крывымі мячамі, зьдзіўляюча падобныя да маскоўскіх і татарскіх войскаў XVI-га стаг.

Скарына памясьціў свой гэрб (сонца і поўмесяц) на сьцягу па старане Ізраэлітаў.

# Зь лістаў у рэдакцыю

ВЕЛЬМІ ПАВАЖАНЫ АЙЦЕЦ РЭДАКТАР!

Прысылаю падпіску на «Божым Шляхам» за 1965 год. Цешуся, што гэты часапіс цікавы й паважны. Апошні нумар (87) прачытаў з захапленьнем. Шмат скарыстаў з артыкулу «Беларусы ў Грэцкай Калегіі», як і з залучанага да яго Сьпіску. Удзячны за гэта А. Н.

У сваім часе Вы пыталіся пра мой погляд на паэму «Князь і Лапаць». Даю свой адказ на гэта пытаньне ў кароценькім артыкуліку. Гэта ня ёсьць крытычны разгляд твору, а апісаньне першага ўражаньня аб ім. Калі ўважаеце, што артыкул гэты мае вартасьць — надрукуйце. Выбачайце, Дастойны Ойчэ, што адгукнуўся не адразу.

З глыбокай пашанай

*В. Жук-Грышкевіч*

*

*Уражаньні з паэмы «Князь і Лапаць»*

Пра паэму «Князь і Лапаць» можна сказаць шмат пахвальнага. У ёй прыгожым складным вершам апісана трагэдыя нашага народу й рэалістычная сумная падзея нясьведамай нацыянальна й грамадзка беларускай эмігранцкай сям'і. Падзея гэта — ці лепш мо' гісторыя — характэрная й павучальная для нашай шматлікай эміграцыі, якую бядота й паняверка пад ўладай акупантаў змусіла шукаць лепшай долі на чужыне.

Але як прачытаеш увесь твор, мімавольна паўстае пытаньне: пры чым тут «Князь і Лапаць»? Гэты назоў, які сам па сабе сугэруе клясавую супярэчнасьць, зусім тут не на мейсцы. Беларуская гэтак званая эканамічная эміграцыя ёсьць суцэльна сялянская, таму вырозьніваньне сярод яе князёў і лапцяў выглядае штучным, ды ўводзіць чытача ў блуд. Звычайна назоў твору канцэнтруе ў сабе асноўны зьмест яго, тут жа ён ня мае нічога супольнага з асноўным зьместам.

Ня менш дзіўным ёсьць і падназоў твору «сучасная казка». Але, але, сучасная, але ня казка, якая звычайна алегарычным спосабам пераказвае якуюсь выдуманую падзею, а самая жывюсенькая рэчаіснасьць, — трагічная гісторыя беларускай эмігранцкай сям'і, загнанай бальшавіцкай прапагандай у савецкі нерат.

І колькі-ж, колькі падобных эмігранцкіх сем'яў з Амэрыкі Паўночнай і Паўднёвай трапіла падобным спосабам у гэты нерат! І цяпер яшчэ трапляюць. Бальшавіцкія панявольнікі не аслабляюць сваей ашуканчай прапаганды, скіраванай на заганяньне наіўных эмігранцкіх рыбак у свой нерат, наадварот, яны ўзмацняюць яе. Не дарма-ж у Менску паўстаў асобны «Беларускі Камітэт для Сувязі з Суайчыньнікамі Заграніцай».

На вялікі жаль няма ніякага процідзеяньня супроць акцыі бальшавіцкай прапаганды за вяртаньне на радзіму. Мясцовыя ўлады нічога ня робяць у гэтым напрамку, дый наша арганізаваная палітычная эміграцыя мала актыўная. У такой сытуацыі паэма «Князь і Лапаць» набірае яшчэ большага значэньня, як *вынятковы ў сваей вартасьці антыдотум* супроць бальшавіцкай прапаганды за вяртаньне на радзіму. Падкрэсьліваю словы «вынятковы ў сваей вартасьці», бо ўва ўсей літаратуры аб Савецкім Саюзе, выданай у вольным сьвеце няма хіба што твору, які-б так праўдзіва, так плястычна й трапна — і то лёгкім вершам, ды йшчэ тыповымі народнымі сказамі — прадставіў жорсткую савецкую рэчаіснасьць. Кожная сцэна, кожны выпадак выступае тут у поўнай сваей наяўнасьці, як жывая зьява, як жывы абраз.

Ня менш яскравыя й дзеячыя асобы: агенты НКВД, пракуроры, судзьдзі й апаратчыкі, савецкія тыпы й звычайныя людзі. Іх паводзіны, іх дзеяньні й гутаркі тыпова савецкія. Тут і ўсе прыкметы савецкага ладу як на далоні, і савецкая арганізацыя й гаспадарка «на ліцо». У дадатку пераказ плыве лёгкай вершаванай гутаркай, ён такі цікавы й пераконваючы, што нельга адарвацца ад яго й нельга не паверыць у праўдзівасьць пераказанага.

Толькі сапраўдны мастак слова, здольны назіральнік жыцьця й добры псыхалёг можа напісаць такі твор. Гэты твор дзеіць на людзкі розум, эмоцыю й выабражэньне. У ім, апрача назову й пэрыпэтыяў Дука з шляхоцтвам, няма нічога штучнага й лішняга.

Да рэчы, на маю думку, увядзеньне шляхоцкасьці Дука зусім непатрэбнае ў творы. Магчыма аўтар хацеў элемэнтам шляхоцкасьці ўзмоцніць прычыну перасьледу Дука савецкімі ўладамі. Калі так, дык гэта было лішнім. Савецкія ўлады перасьледавалі-б яго й без шляхоцкасьці. Наяўнасьць жа элемэнту шляхоцкасьці можа ўвясьці ў непаразуменьне незнаёмага з савецкім ладам чытача. Такі чытач можа падумаць, што Дука перасьледуюць таму, што ён шляхціц, а калі-б ён ня быў шляхціцам, дык яго мо' ніхто й не крануў бы.

Аднак усе ўспомненыя хібы не памяншаюць аснаўнай вартасьці твору. Раней ці пазьней ён станецца настольнай кнігай кожнага эмігранта й хутка дачакаецца паўторнага выданьня. Тады варта было-б падумаць аб зьмене назову на больш атракцыйны й адпавядаючы аснаўному зьместу паэмы. Назоў твору — гэта важная рэч. Назоў першай на эміграцыі кніжкі аўтара «Кі-

тай — Сібір — Масква» ёсьць найлепшым доказам. Гэты назоў стымулюе да набыцьця й прачытаньне кнігі. Назоў жа «Князь й Лапаць» нікому нічога ня кажа.

Трэба было-б паважна падумаць і аб перакладзе паэмы на ангельскую, а мо' й на іншыя мовы. У сваім родзе, як было сказана вышэй, твор гэты выняткавы. Напэўна ён меў бы попыт і ў іншых мовах і зрабіў бы яшчэ большую справу. Праўда, цяжка будзе знайсьці перакладчыка на вершаваную й такую самабытную мову, але шукаць яго трэба.

З усяго вышэйсказанага не вынікае, што паэму «Князь і Лапаць» трэба разглядаць як прапагандны твор. Як раз наадварот, у гэтым творы няма прапаганды. У гэтым творы выступае жывая мастацкая рэчаіснасьць, жывая абразы, створаныя паэтыцкімі сродкамі выяўленасьці. Яны шчырыя й непадкупныя, арыгінальныя й самабытныя. У іх няма штучнасьці, падробленасьці. Яны выплываюць з глыбіні душы паэты, адтвараюць тое, што ён бачыў і перажыў.

Паэма «Князь і Лапаць» ёсьць літаратурны твор, мастацкі твор. Выглядае парадаксальна, але як раз дзеля гэтага ён мае вялікую прапагацыйную сілу.

*В. Жук*

*

## *ЛІСТ З ЧЫКАГО:*

*Паважаны Айцец!*

У нашай прэсе вельмі рэдка зьяўляюцца весткі аб жыцьці і дзейнасьці беларусаў у Чыкаго, а тымчасам тут беларусы ня сьпяць.

Ня так даўно адбыўся тут агульны гадавы сход Згуртаваньня Беларусаў штату Ільлінойс. Шмат аб чым гаварылі, але заслугоўвае на ўвагу пастанова: грашовая дапамога Беларускай Сэкцыі Мадрыцкага Радыё ў суме 600 даляроў на 1965 год. І яшчэ: уладзіць урачыстую акадэмію «25 Сакавік» і сьвяткаваньне 10 угодкаў Беларускай Катал. Парахвіі Ўсходняга абраду.

У месяцы лютым наведаў беларусаў у Чыкаго а. М. Урбановіч і гэта зыйшлося з ягоным юбілеям — 50 угодкаў сьвятарства: было зладжанае ўрачыстае прыняцьце для Паважанага Юбілята.

Сьвяткаваньне «25 Сакавік» мае адбыцца 28, III: а ўгодкі Парахвіі праектуецца на 23 траўня. Аб Беларускай Парахвіі будзе зьмешчаны ў прэсе рэпартаж больш дакладны, але пры гэтым даём кароткія весткі.

Дзесяць гадоў таму бадай ці не галоўным ініцыятарам парахвіі быў генэрал М. Дзямідаў. Першую Божую Службу — Сьв. Літургію — адправіў сьветлай памяці архімандрыт Гапановіч. Гэта адбылося ў манастыры аа. Бэнэдыктынаў у Лайэль. Пасьля аа. Тарасэвічы — Янка і Ўладзімер — а такжа а. Язэп Рэшэць (сьв. пам.) правілі Літургію ў Чыкаго, у манастыры сясьцёр Юзэфінак.

Цяпер парахвія мае сваю ўласную прыгожую царкву, памешканьне для сьвятароў, бібліятэкі і дзьве залі для сабраньняў. Кошт гэтага ўсяго вынес больш 160 тысяч даляроў. Праўда, гэты доўг поўнасьцю ня выплачаны, але ёсьць надзея, што пры помачы Курыі Кардынала і ахвярнасьці парахвіянаў доўг будзе ўрэгуляваны.

Кажную нядзелю і сьвята адбываюцца дзьве Божы Службы: а гадз. 8,45 у мове ангельскай і а гадз. 10,45 — па славянску. Кажную трэйцюю нядзелю ў месяцы правіцца яшчэ Божая Служба а гадз. 12,30. Гэтая апошняя для студэнтаў розных школаў, якія прыяжджаюць з сваімі прафэсарамі.

Парахвіяне гэта — каталікі і праваслаўныя: цяпер яны ўсе — адно і за адно.

Ёсьць у Чыкаго і расейцы, каталікі ўсходняга абраду, якіх ачольвае архімандрыт Дзянісаў.

*Я...*



*Навагодняе спатканьне прадстаўнікоў розных нацыянальнасьцяў з Яго Эмінэнцыяй Кардыналам Мэк Гігэн, Архібіскупам у Торонто. Трэці на права — беларус Сп. Антон Маркевіч.*

*Спадар Маркевіч інфармаваў Кардынала, Біскупаў і ўсіх прысутных аб палажэньні паняволеных нацыяў у Савецкім Саюзе, асабліва аб справах нашых суродзічаў — Беларусаў, зьвяртаючы ўвагу на прасьлед рэлігіі.*

# ФОНД РАЗБУДОВЫ

## ШКОЛЫ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА Ў ЛЁНДАНЕ

ГЭТЫМ ЗЬВЯРТАЕМСЯ ДА ЎСІХ СУРОДЗІЧАЎ З ГАРАЧАЙ ПРОСЬБАЙ ДАПАМАГЧЫ САБРАЦЬ ГРОШЫ НА РАЗБУДОВУ НАШАЙ БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛЫ Ў ЛЁНДАНЕ.

МАЕМО ЎЖО БОЛЬШ КАНДЫДАТАЎ ЧЫМ МЕСЦА, ДЗЕЛЯ ТАГО НЕАБХОДНА ПРЫСТУПІЦЬ ЧЫМ ХУТЧЭЙ ДА ПАБУДОВЫ НОВАГА ДОМУ.

ПАТРЭБА НАМ САБРАЦЬ 30.000 АНГ. ФУНТАЎ. АДПАВЕДНЫ ПЛЯЦ ДЛЯ ШКОЛЫ Ў НАС УЖО ЁСЬЦЬ.

БРАТЫ! ВЯЛІКАЯ МЭТА ПЕРАД НАМІ: ДАПАМАЖЭЦЕ!

Усе ахвяры просім прысылаць на адрас Кіраўніка школы:

**Rev. J. Hermanovič, Marian House, Holden Avenue, London. N. 12, England.**

*† ЧЭСЛАЎ СІПОВІЧ*

*Бп. тыт. Марыямітанскі*
*Апостальскі Візытатар Беларусаў*
*а. Лей Гарошка, Рэктар*
*а. Язэп Гэрмановіч*
*а. Аляксандар Надсон*

# Весткі з царкоўнага жыцьця

У РЫМЕ 22 лістапада закончана III-я Сэсія Ватыканскага Сабору і на востраве Родос у тымжа часе закончаны Зьезд Праваслаўных Цэркваў.

І адна і другая старана разважала справу *«дыялёгу»* між Цэрквамі. Праваслаўная старана на сваім Зьезьдзе дала свабоду асобным Цэрквам весьці перамовы з Царквой Каталіцкай, але толькі ад свайго імяні і не ад імяні ўсяго Праваслаўя.

Маскоўская Дэлегацыя высказала думку, што не належыць тымчасам з гэтым «дыялёгам» сьпяшацца: лепш пачакаць канца апошняй IV Сэсіі Ватыканскага Сабору.

Ленінградзкі мітрапаліт Нікадэм сказаў аднаму з карэспандэнтаў, што не належыць старане праваслаўнай рабіць на каталікоў націску: няхай свабодна пастанаўляюць самі на Саборы, як далей весьці дыялёг.

Зара пасьля канфэрэнцыі на Родос Патрыярх Атэнагорас прыслаў да Папы дэлегацыю — 16, II, 1965 — Мітрапаліта Мэлітона і Мітрап. Хрызостама (з Міры). Яны паведамілі Папу аб прабегу канфэрэнцыі на Родос і правялі даведку аб далейшым «дыялёгу» з Каталіцкай Царквою, як гэта жадае Патрыярх Атэнагорас.

Пасьля яны аддалі візыт кардыналу Чыконьяні, кард. Бэа і дзекану кард. Тіссэрану, якому даручылі ад Патрыярха адзначэньне — крыж Сьв. Андрэя Апост.

Патр. Атэнагорас з сваім Сынодам устанавіў асобную, так званую, «Большую Камісію», якой даручана прыгатаваць грунт для разважаньня ў супольным «дыялёгу» справу злучэньня з Каталіцкай Царквою.

✳

ВАТЫКАН, Базыліка Сьв. Пятра: Паводле досьледаў архэолёгаў (М-ме Гуардуччі) Оссэрваторэ Романо піша, што сьцьверджана месца гробу Сьв. Апостала Пятра пад конфэсіяй і адкрыты косьці яго. Гэтая вестка ўзрушыла і абегла ўвесь сьвет, бо дасюль пэўнасьці такой ня было.

✳

ПАПА ПАВАЛ VI прыняў на аўдыенцыі прэзыдэнта Фэдэдрацыі Буддыстаў Японіі, Рірі Накаяма, які падаў Папе дэклярацыю, каб каталікі ў Японіі супрацоўнічалі з буддыстамі, асабліва там, дзе жывуць супольна і маюць супольныя справы.

Пасьля візыты ў Ватыкане Накаяма выявіў ажыўлёную дзейнасьць: быў прыняты ў японскага кардынала Татсуо Доі, з якім абгаварылі справу супрацоўніцтва.

Накаяма не агранічваецца самой Японіяй: ён маніцца пасрэднічаць у нязгодзе каталікоў з буддыстамі ў Паўдзённым В'етнаме. Кажа: «Нам трэба стварыць супольны фронт — рэлігійны супраць бязбожных камуністаў». Накаяма гатоў ехаць у В'етнам для размовы з буддыстамі і каталікамі.

✳

28-га студня 1965 г. Папа Павал VI назначыў 27 новых кардыналаў, значыць, лік усіх дайшоў да 103! Гэта ўжо лік дасюль нябывалы. Праз некалька вякоў была ў практыцы норма 70, якую нарушыў Папа Ян XXIII.

Найважнейшы выпадак у гэтай номінацыі тое, што ўвайшлі ў калегію кардыналаў тры ўсходнія каталіцкія Патрырхі — ведамы Максімос Сайг з Антыохіі, абраду грэка-катал., Мэоухі Пётр-Павал — абр. Мароніцкага з Антыохіі і Стэфанос Сідароусс, копт з Александрыі.

Яшчэ з усходнікаў — Язэп Сьліпый з Львова, украінец, які правёў доўгі (18 г.) тэрмін у вязьніцах і лягерах Сав. Саюзу, перад годам выпушчаны ў Рым.

Рэдакцыя «Божым Шляхам» шле Яму, як прыяцелю Беларусаў, прывітаньне і віншаваньне.

З другіх назначаных характэрная кандыдатура — Язэп Бэран з Прагі ў Чэхіі. Гэты быў увязьнены праз камуністычны рэжым, перад годам звольнены, але недапушчаны да абавязкаў як арцыбіскуп у Празе.

Также Франьё Сэпэр з Югаславіі.

І яшчэ нас цікавіць афрыканец Павал Цоунграна, нэгр, арцыбіскуп з Высокай Вольты.

Характэрна также, што кардыналы італьянскія з даўнейшай большасьці зыйшлі да трэйцяе часткі, значыць, пры наступных выбарах Папы лік чужаземцаў у кардынальскай калегіі будзе моцна пераважаючы і вельмі магчыма, што новы Папа будзе з не-італьянцаў.

Некатарыя газэты пішуць, што Папа Павал VI мае пасьля IV Сэсіі Сабору назначыць новую партыю кардыналаў і так уфармуецца праектаваны Ватыканскі *Сэнат*, ці «Парлямант», як дарадчы орган Рымскага Папы.

Яшчэ навіна, што Папа Павал VI скасаваў капялюшы і пры плашчох кардыналаў доўгія трэны (хвасты): гэтым актам спаўняецца жаданьне большай скромнасьці ў адзежы духавенства, як было дамаганьне на Саборы.

✳

Цікавае здарэньне ў царкоўным жыцьці: Папа Павал VI адаслаў у Турцыю турэцкі ваенны сьцяг, які ў 1571 г. быў здабыты пад Лепанто ў вайне з Турэцкай арміяй папскім войскам. Быў там марскі бой, перамога хрысьціян была поўная і вырашала лёс Эўропы, якая магла быць запалоненая туркамі.

Цяпер — на знак згоды і прыязьні — Папа пастанавіў пазбыцца гэтага знаку трыумфу над

ісьлямам: прынц Маркантоніо Колёмба адвёз сьцяг, які 400 гадоў быў затрыманы ў Ватыканскім музэю.

Падняліся галасы пратэсту, наймацней у Гішпаніі. У газэтах пісалі: «Павал VI разьдзёр бачыну слаўнай нашай гісторыі!»

Мусімо згадзіцца з тым, што ні адна ўжо падобная бачына павінна быць адрэзаная або забытая дзеля цяперашніх вышэйшых імкненьняў, а гэтымі ёсьць загад Хрыстовы: «Ідзеце, навучайце ўсе народы, хрысьцячы іх у імя Айца, і Сына, і Сьвятога Духа . . .» (Мацьвей, 28, 19).

*

ЗЛУЧ. ШТАТЫ АМЭРЫКІ:

1) У студні адбылося сабраньне прадстаўнікоў ад пратэстантаў, каталікоў і жыдоў у Нью Ёрку з мэтай абгаварыць справу міру ў ва ўсім сьвеце. Катал. біскуп з Пітсбургу сказаў: «Трэба быць ня толькі слухачамі слова, але дзеячамі», бо справа ня церпіць адкладаньня.

2) Першае спатканьне багасловаў каталіцкіх і жыдоўскіх — 12 катал. сьвятароў і 12 рабінаў сабраліся ў манастыры бэнэдыктынцаў у Пэнсыльваніі. Паставілі тэзу: не разважаць спорных пунктаў, але тое, што нас лучыць.

*

АЎСТРЫЯ-ВЕНА. Кардынал Кеніг кажа аб «вольнасьці» рэлігіі у Сав. Саюзе: «Хоць камуністы аб'яўляюць „вольнасьць-свабоду" рэлігіі — гэта ня ёсьць сапраўдная свабода, але большменш агранічанае пазваленьне адпраўляць службы ў сьвятынях. А ў апошніх гадох сытуацыя ў Сав. Саюзе ня толькі не папраўілася, але значна пагоршала. Нават хваленая „дэсталінізацыя" не ўнясла нічога лепшага, але шмат горшага».

Рэлігія ня толькі ня мае права весьці прапаганды, але нават бараніцца. Прасьлед рэлігіі ў Саюзе перавысшае найгоршые часы прасьледу Каталіцкай Царквы за часоў цара Мікалая І-га.

*

ГІШПАНІЯ — МАДРЫТ: У Мадрыце было ў 1900 г. 576,000 жыхароў, а цяпер 2,600,000. Горад вельмі расшырыўся і на прадмесьцях бракуе каталіцкіх сьвятыняў. Арцыбіскуп Морцільлё аб'явіў, што распрацаваны плян разбудовы прадбачыць фундацыю 253 новых парахвіяў!

Тымчасам набажэнства адпраўляецца ў заляхбараках, якія служаць і як школы і залі для зборак . . . 35 парахвіяў мусяць абняць законы, а другія 35 мусяць законнікі прыгатаваць для новых парахвіяў. Тыя законы, якія вядуць школы, або прытулкі для дзяцей, павінны зара пачаць арганізаваць такія-ж на прадмесьцях. Устанаўляецца апека над сьвятарамі беднымі, нездаровымі і старымі.

ФРАНЦЫЯ: Падчас III Сэсіі Сабору — дзеля нкеаторых выпадкаў вострай апазыцыі меншасьці у дыскусіі — паўстала ў Францыі агітацыя супраць Папы Паўла VI-га: што Папа хоча скасаваць «калегіяльнасьць», што на Саборы быў «бунт» біскупаў, што заіснавала агульнае незадаваленьне з папскай «дыктатуры» і г. д.

Вось-жа канфэрэнцыя францускіх біскупаў выказала ўсю недарэчнасьць такой агітацыі, што — нібы ў адбароне біскупаў — хоча пасеяць зярнё нязгоды паміж Папам і біскупамі. А на Саборы ня былі нарушаны ані каталіцкія догматы, ані структура Царквы. Сабор вядзе нармальна свае пастырскія справы: розьніца галасоў пры галасаваньні — гэта звычайная зьява ўсіх людзкіх арганізацыяў.

Царква, якая ёсьць Божай Установай, складаецца з людзей, а людзі маюць свае слабасьці і мыляюцца, аднак Сьвяты Дух усьцеражэ Царкву, каб ня змылілася ў веры і абычаях.

*

МАДЗЯРШЧЫНА. Ватыкан зьвярнуўся да мадзярскага ўраду, пытаючы і выражаючы жаль, што — пасьля нядаўнай угоды — ўлада Будапэшту зноў пачала арышты духавенства.

*

КУБА. Паведамляюць, што на Кубе бачыцца значнае рэлігійнае адраджэньне. Праўда крышачку камуністычны ўрад аслабіў прасьлед рэлігіі, але важней, што само грамадзтва аказвае нахіл да Бога і Царквы: больш людзей прыходзіць на набажэнства і шчырэй моляцца.

*

ФІЛІПІНЫ. У канцы прошлага году філіпінскія біскупы ў супольным пастырскім лісьце заклікалі філіпінцаў да бліжэйшага пазнаньня рэлігіі — да катахізму дзяцей, моладзі і старшых.

Сьвецкія школы, у якіх урад занядбаў навуку рэлігіі, давялі да вялікай цемнаты ў народзе. Біскупы пастанаўляюць пачаць арганізацыю спэцыяльных сьвецкіх катэхэтаў.

*

ЭТЫЁПІЯ-(АБІССЫНІЯ). Імпэратар Гайле Сэляссіе склікаў да Аддіс Аэбэбы прадстаўнікоў рэлігіі монофізытаў-коптаў, сырыйцаў, армян. Абіссынія такжа належыць да монофізытаў. Яны ня прынялі пастановы Сабору ў Хальцэдоне у 451 годзе, што Ісус Хрыстос ёсьць Богам і Чалавекам: прызнаюць у Ім толькі Божую натуру, а чалавечая натура, як вераць монофізыты, ёсьць толькі як-бы мглістая, як-бы здань — «на вока».

Монофізытаў цяпер да 18-ці мільёнаў і яны 15 вякоў ніколі не спатыкаліся на зьездах. Яны аднолькава ня ўзгоднены ні з Каталіцкай, ні з Правасл. Царквою.

У канцы зьезду пастанавілі ўвайсьці ў кантакт («дыялёг») з Ватыканам.

Пастанавілі ўвесьці аднолькавы календар, урэгуляваць законнае жыцьцё, такжа пост і інш.

✳

«МІЖНАРОДНЫЯ КАТАЛІЦКІЯ ІНФАРМАЦЫІ» — Двутыднёвік — выдаецца ў Парыжы. У № 232 з 15, I, 1965 піша:

«Жыцьцё ня ёсьць ані ружовае, ані чорнае». Жыцьцё наагул (і ў гэтым такжа жыцьцё рэлігійнае) пераходзіць стадыі трудныя і радасныя, як хвалі на моры так меняецца ўсьцяж. Вось бачым цяпер аслабленьне варожага націску на Царкву ў сьвеце: сацыялісты, буддысты, магамэтане і лібэралы, нават камуністы прабуюць увайсьці ў «дыялёг» з каталікамі.

Праўда, далёка яшчэ да поўнай лучнасьці з праваслаўнымі і пратэстантамі. Але кожны разумее, як мы з сабою далёка разыйшліся: былі часы глыбокай варожасьці, пасьля доўгага і цяжкога недаверу, пасьля прыкрай антыпатыі і поўнай абыякавасьці... А вось цяпер ужо маемо знакі яснай пагоды нашага духа і вачэй: мы ўваходзім у прыязны дыялёг: запанаваў дух малітвы, узаемнага паважаньня, знаёмасьці і любові.

Мусімо прызнаць і назваць гэтае новае зьявішча «натхненьнем Сьвятога Духа».

У працягу трох гадоў увесь сьвет бачыў — на трох Сэсіях, Сабор II-гі Ватыканскі.

Зь вялікім дзівам — праканаўся, што Каталіцкая Царква ў поўнай дэмакрацыі лучыць павагу аўтарытэту і мае гваранцыю адзінства і што так спаўняюцца словы Гасподнія: «... на гэтым камяні я збудую Царкву Маю, і вароты пякельныя ня перамогуць яе». (Матв. 16, 18).

IV-ая Сэсія будзе апошняй і самай важнай: тут будзе сказана моцнае слова Сьв. Царквы:

1) У справе супакою і згоды ўсіх народаў, а такжа супраць вайны.
2) У справе злучэньня Цэркваў.
3) У справе голаду.
4) У справе свабоды і роўнасьці людзей і ў шмат другіх вельмі важных справах для ўсяго сьвету.

✳

НАРОДНЫЯ МОВЫ.

ЛЁНДАН: У Англіі праходзіць рэформа літургіі вельмі няроўна: У Бірмігаме прынята зь вялікім энтузіязмам. На набажэнства пачалі прыходзіць групы моладзі, якая дасюль абыходзіла сьвятыні здалёку.

У некаторых мясцох, як і ў самым Лёндане зьяўляюцца незадаволеныя, што пратэстуюць супраць рэформы і бароняць лаціну, бо не жадаюць падабенства да англіканаў.

ЗЛУЧ. ШТАТЫ АМЭРЫКІ. Тут прайшла рэформа бяз ніякай труднасьці. Кард. гораду Бостону Кушынг казаў, што пакрысе ўся лацінская служба пяройдзе на мясцовую мову.

Аднак шмат хто з пабожных ірляндцаў жаліцца, што сьвятары, молячыся па ангельску, мяшаюць адмаўляць ражанец. «Даўней — кажуць — сьвятар маліўся сабе па лаціне, а людзі — таксама сабе па свойму і ўсім было добра, а цяпер усе павінны маліцца са сьвятаром і ўжо ня тое...»

Наагул сьвятары разумна падыходзяць да рэформы, аднак бачаць, што трэба будзе самым падцягнуцца у лепшы бок. Калі вернікі будуць разумець, што сьвятар гаворыць у набажэнстве, дык з гэтым будуць бачыць, як сьвятар абходзіцца і як *гаворыць* з Богам. Бо — то лаціна прыглушыла малітву: сьвятары занадта «пабраталіся» з Богам, бо ня было над імі кантролі. А цяпер кожная бабулька стане кантроляй і сьвятар будзе абавязаны сапраўды *маліцца,* а не лапатаць малітваў як сечкарня ці малатарня.

І няхай адступяць ад аўтара тыя сьвятары, што адпраўляюць літургію шыбчэй чым выкураць адну папяроску- Нябось, у газэце ўсякую дрэнь чытаюць уважна, а з Богам гамоніць у стылю ракеты, што ляціць на месяц... і нават ёсьць такія манахі!

✳

## *ПРАСЬЛЕД РЭЛІГІІ Ў САВЕЦКІМ САЮЗЕ І Ў ІНШЫХ КАМУНІСТЫЧНЫХ КРАІНАХ:*

Ад самага пачатку рэвалюцыі ў 1917 г. камуністы, захапіўшы 25, X, 1917 г. ўладу, пачалі востры прасьлед рэлігіі. Пішуць, што было зьнішчана больш 100 праваслаўных япіскапаў і вялізная колькасьць духавенства, а рэшта — блізка пагалоўна — прайшла праз турмы і лягеры. Сьвятыні розных веравызнаньняў замкнёныя: пакіненыя толькі ў невялікай колькасьці для паказной свабоды.

Аднак катасрофа нападу Гітлера змусіла бязбожнікаў да рэтырады: была аб'яўлена «поўная свабода рэлігіі».

Калі ў 1945 савецкая армія захапіла Манджурыю, тады ўсе ваенныя аднагалосна сьведчылі эмігрантам у Харбіне, што ў Савецкім саюзе ня толькі дадзена свабода веры, але нават абарона рэлігіі.

Доказам таго можа служыць тое, што падчас ваеннай маніфэстацыі ў Харбіне на трыбуне — разам з маршаламі і генэраламі — стаялі тры

прав. япіскапы — Нестар, Дзімітры і Ювэналій (праўда, іхняе месца было на сходках трыбуны).

Такая талеранцыя камуністаў ачаравала эмігрантаў: духавенства адразу прызнала ўладу Маскоўскага Патрыярха, а ўсе эмігранты ўзялі савецкія пашпарты. Пасьля Савецкі Саюз доўга мусеў адрабляць і тушаваць тую свабоду — аж дакончыў тым, што мітрапаліт Нестар дастаў 25 гадоў турмы і лягеру, Ювэналій — таксама, а Дзімітры ў Ленінградзе скора памёр.

Тыя, што паехалі ў Саюз — (ім Радзіма даравала!) — паволі, перайшоўшы праз лягеры — хто перажыў іх — дасталі савецкую свабоду.

✳

УКРАІНА-ГАЛІЦЫЯ. У 1946 г. Грэка-Каталіцкая Царква была тут афіцыяльна скасаваная: духавенства, якое не адраклося сваей Цэркви, было забранае ў турмы і лягеры. Сьвятыні былі аддадзеныя ў кіраўніцтва Маскоўскай Патрыярхіі. Ведама, бязбожнікам ня йшло аб карысьць праваслаўнай Царквы, але аб справы зьнішчэньня наагул рэлігіі.

✳

ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА ў Саюзе і далей мае афіцыяльную свабоду, нават апеку. Гэты стан можна параўнаць да свабоды хрысьціян у Турцыі пасьля вякоў прасьледу, а нават разьні: гэта свабода — паказаная для заграніцы.

У Саюзе па вялікіх гарадох існуюць па адной або пару цэркваў — для паказу, дзе іх перад рэвалюцыяй былі дзесяткі і сотні. Але аб гэтым ужо ў нас пісалася немала. І аб тым, што найбольшы прасьлед існуе ў Сав. Беларусі.

Характэрна, што рэлігія ўсё-ж не даецца вынішчыць, як аб гэтым бядуюць самі бязбожнікі (Ільічоў!). Яны добра ведаюць, што — пазволь толькі хоць крышку сапраўднай свабоды — дык народ самасілай, нават у недастатку і бядзе, адбудуе пакасаваныя цэрквы і вера ўваскрэсьне!

✳

РУМУНІЯ. Праваслаўная Царква мае тут поўную свабоду, ведама, пад апекай камуністычнай улады. Патрыярх Юстыніян і ўсе япіскапы на месцы; дзеюць нармальна духоўныя сэмінарыі і дзьве акадэміі, такжа манастыры.

Каталіцкая-лацінская Царква, да якой належыла 1,174.000 вернікаў, перажывае цяжкі прасьлед: усё вышэйшае духавенства і шмат ніжэйшага трапіла ў турмы і лягеры. Выпушчаны на волю адзін лацінскі япіскап А. Мартон, але ў дамовым арышце і служыць публічна ня можа. На Ватыканскі Сабор яго ня пусьцілі.

Румунскі ўрад імкнуўся адарваць Катал. Царкву ад Рыму і ўладзіць лацінскую «нацыянальную» царкву, аднак гэта ня ўдалося: затое трывае жудасны прасьлед. Дух. сэмінарыі і кляштары разагнаныя, шмат сьвятыняў зачынена.

ГРЭКА-Каталіцкая Царква ў Румуніі дэкрэтам 1, XII, 1948 *скасавана.* Да яе належыла 1,573,000 вернікаў. Было 5 епархіяў і духоўных сэмінарыяў. Пачаўся жорсткі прасьлед духавенства: хто не паддаўся касацыі Царквы, падлягаў турме. Стан такі: няма аніводнага япіскапа, ані грэка-каталіцкіх сьвятыняў, ані легальнага духавенства. Ёсьць сьвятары блукаючыя-вандроўныя, аднак за гэта накладаецца кара вязьніцы да 8-мі гадоў, калі хто такіх сьвятароў прыймае (дэкрэт з 20, VIII, 1950 г.). Усе кляштары (манастыры) і 1800 грэка-катал. парахвіяў скасавана, а іх маемасьць канфіскавана ў казну, або часткова перададзена Патрыярху Юстыніяну для Царквы праваслаўнай.

Адзін япіскап грэка-катал., Юліян Госсю 80 г., яшчэ жыве, але зьняволены.

✳

БАЎГАРЫЯ. Каб асьмеліць веруючых да атэізму, як падае «Сэптэмврыска Победа», у гор. Плевна для тых, што будуць «першыя па сьвецку», назначаецца нагарода: хто не дае да хросту дзіцяці, 20 леваў (90 франкаў), хто ідзе на цывільны шлюб — 60 леваў, хто ладзіць цывільны пахарон — 10 леваў — «прэміі».

✳

КІТАЙ. Паводле апошніх вестак катал. біскуп у Шангаі асуджаны на 20 г. турмы. Ягоная фамілія Кунг-Пін-Мэй: цяпер у турэмным шпіталі, вельмі цяжка хворы і — харкае крывёю.

✳

ЮГАСЛАВІЯ. Камуністычная партыя ўвяла зьмену ў сваей праграме: зьняла забарону ўчасьнічаць партыйным у каталіцкім набажэнстве. Праўда, яшчэ моцна адзначаюць свой «навуковы» атэізм, аднак абяцаюць вольнасьць каталікам камуністам — хто захоча выконваць каталіцкія абавязкі і рэлігійныя практыкі. — Што-ж? на пачатак добра й гэта!

У апошніх часох Югаславія імкнецца навязаць бліжэйшыя адносіны з Ватыканам. У склад Югаславіі, апрача праваслаўнай Сэрбіі, уваходзяць Харвацыя і Славэнія — народы здаўна каталіцкія, якія даюць моцны адпор націску атэізму. Ціто змушаны аслабіць варожую палітыку да Каталіцкай Царквы.

✳

ПОЛЬШЧА. Праваслаўная Царква ня мае тут большых труднасьцяў: камуністычны ўрад адносіцца да яе толерантна. Характэрна толькі, што царкоўная ўлада тут пераважна расейская, якая надае расейскі тон усей Царкве, хоць вернікаў найбольш беларусаў. Доказам таго ёсьць царкоўны часапіс, які друкуецца толькі па расейску: часам бываюць артыкулы па польску, але беларускага не даецца ніколі нічога.

Каталіцкая Царква ў Польшчы пераходзіць значны націск атэістычнага рэжыму і абмежаваньне сваей дзейнасьці: гэта выражаецца ў немагчымых падатках на касьцельныя аб'екты, недапускаецца будова новых сьвятыняў у новых гарадох і прадмесьцях, абмежаваньне касьцельных друкаў і інш.

# З БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ

Англія

### ВАСЬМІДНЁВЫЯ МАЛІТВЫ ЗА ЕДНАСЬЦЬ У ЛЁНДАНЕ

Хоць Другі Ватыканскі Сабор яшчэ ня скончыў сваей працы, але ягоныя вынікі можна назіраць у тым, што сярод хрысьціянаў розных веравызнаньняў узрасла цяга да еднасьці. Гэта асабліва адчувалася ў часе апошніх Васьміднёвых Малітваў за Хрысьціянскую Еднасьць, якія адбываліся у часе ад 18-га да 25-га студзеня.

У Англіі, дзе раздрабленьне хрысьціянаў ёсьць асабліва трагічнае, Васьміднёвыя Малітвы за Еднасьць прынялі выгляд вялікай маніфэстацыі. Былі зборкі, мітынгі, прамовы, супольныя выступленьні ... Найважнейшым аднак было тое, што ў цэлай краіне бадай ці была адна царква ці капліца дзе-б у гэтым часе не прынасіліся шчырыя малітвы, каб Бог вярнуў хрысьціянам тую еднасьць, якой жадаў сам Хрыстос, калі маліўся: «Каб усе былі адно, як Ты, Ойча, ува Мне і Я ў Табе».

Разам з іншымі хрысьціянамі маліліся таксама і каталікі. У Лёндане у Вэстмінстэрскім Саборы кожны вечар у часе актавы была асобная Багаслужба за аб'еднаньне ўсіх хрысьціянаў у адной Сьвятой Царкве Хрыстовай. У часе кожнай Багаслужбы блыо казаньне. Прапаведвалі такія высокія дастойнікі, як архіепіскап (цяпер кардынал) Гінан, япіскап Уілер і Мансіньёр Томлінсон. У аўторак 19-га студзеня меў казаньне наш Дастойны Уладыка Чэслаў Сіповіч. Ягонае казаньне у тлумачэньні на беларускую мову зямяшчаем у гэтым нумары.

У нядзелю 24-га студзеня на плошчы Трафальгар у Лёндане быў вялікі мітынг хрысьціянаў розных веравызнаньняў. Прамаўлялі прадстаўнікі каталікоў, англіканаў, мэтадыстаў і г. д. На заканчэньне адбылася сьв. Літургія у бізантыйскім абрадзе ў недалёкай француcкай царкве. Служыў сьв. Літургію Рэктар Беларускай Каталіцкай Місіі а. Леў Гарошка. Дастойны Уладыка Часлаў Сіповіч, які быў там прысутны, гаварыў казаньне. Прыгожа сьпяваў хор таварыства сьв. Кірыла і Мятода.

У той самы дзень раніцай у беларускай царкве сьв. Пятра і Паўла Уладыка Часлаў адслужыў Архіерэйскую Літургію ў саслужэньні з аа. Я. Гэрмановічам і А. Надсонам. У сваім казаньні Дастойны Уладыка зьвярнуў увагу на ўсё тое супольнае, што лучыць усіх хрысьціянаў і адзначыў з задаваленьнем палепшаньне адносінаў паміж рознымі хрысьціянскімі веравызнаньнямі. Ён аднак падчыркнуў, што адзіная сапраўдная еднасьць ёсьць магчымая толькі ў адной Сьвятой Царкве Хрыстовай, на чале якой стаіць наступнік сьв. Пятра. За гэтую еднасьць ён прасіў усіх маліцца.

Да больш скромных удзелаў у малітвах за еднасьць трэба залічыць сьв. Літургію, якую адслужыў а. А. Надсон у пятніцу 22-га студзеня у манастыры Белых Айцоў. Белыя Айцы — гэта Каталіцкі місіянерскі ордзен, які вядзе апостальскую дзейнасьць у Афрыцы і на Блізкім Усходзе. Іхняя вопратка нагадвае вопратку арабаў і яны стараюцца весьці спосаб жыцьця насельніцтва, сярод якога яны працуюць. На Блізкім Усходзе Белыя Айцы вядуць апостальскую дзейнасьць у бізантыйскім абрадзе. У Ерузалі-

## „ПРАЦУЮЦЬ“

Савецкая «Зьвязда» ў № 302, 26, XII, 1964 г. пісала:

«У кастрычніку-сьнежні на трох патоках курсаў прайшлі перападрыхтоўку каля 200 лектараў і прапагандыстых, якія працуюць сярод веруючых сэктантаў, каталікаў і праваслаўных».

Ведама, ўсе працуюць — людзі і нават жывёла, толькі-ж мэта розная: пчала працуе — зьбірае мёд сабе і людзям; але і моль «працуе» — грызе адзежу, таксама і вош «працуе — грызе чалавека»; мікробы «працуюць» — вельмі заўзята — разносяць халеру і інш.

Падобна, можна сказаць, і чэрці «працуюць», каб разваліць Хрыстовую Царкву, а ім памагаюць бязбожныя лектары і прапагандысты. Але Хрыстос сказаў аб Царкве, што «Я збудую Царкву Маю, і вароты пякельныя ня перамогуць яе». (Мацьвей 16, 18).

ПАЧАЕЎСКАЯ ЛАЎРА. Яшчэ афіцыяльна не замкнёная, але ўсьцяж бываюць арышты сьвятароў, дыяканаў і манахаў, некаторых па двытры разы, каб вынішчыць усе сьляды рэлігіі ў Саветах. Адна маці ўнесла скаргу ў ООН у Нью Ёрку, што ейны сын-манах ужо другі раз арыштаваны і што духоўныя асобы церпяць прасьлед насупраць нават савецкіх законаў і параграфаў.

На ўсе скаргі, якія выходзяць на вольны сьвет з Саветаў, камуністы маюць адзін адказ, што гэта паклёп («клевета») і далей вядуць жорсткі прасьлед. Адыход Хрушчова нічога не памог.

Найбольшы націск супраць Каталіцкай Царквы трывае ў Беларусі.

ме яны маюць ведамую сэмінарыю сьв. Анны для арабаў каталікоў бізантыйскага абраду («мэльхітаў»). Адным з слаўных гадунцоў гэтай сэмінарыі ёсьць цяперашні Антыёхскі Патрыярх, Яго Блажэнства Максім IV. У Лёндане Белыя Айцы маюць свой манастыр і сэмінарыю, дзе іхнія студэнты вывучаюць багаслоўе. Ужо увайшло у традыцыю, што кожны год у часе Актавы малітваў за Еднасьць сьвятар Беларускай Каталіцкай Місіі служыць там сьв. Літургію.

*

## ДАКЛАД УЛАДЫКІ ЧАСЛАВА Ў ЛЁНДАНЕ

У сераду 27-га студзеня Дастойны Уладыка Чэслаў Сіповіч меў даклад для Таварыства сьв. Яна Залатавуснага ў Лёндане. Даклад быў на тэму Усяленскага Сабору і ягоных пастановах аб Усходніх Цэрквах. Ён выклікаў вялікае зацікаленьне сярод прысутных.

Таварыства сьв. Яна Залатавуснага зьяўляецца ангельскай каталіцкай арганізацыяй, якая мае за мэту пашыраць веды аб Усходнім Хрысьціянстве ў англямоўным сьвеце. Таварыства выдае часапіс «Хрызостом». Сярод быўшых ганаровых прэзыдэнтаў арганізацыі былі кардыналы Борн і Годфрэй. У сучасны мамэнт ганаровым прэзыдэнтам зьяўляецца кардынал Гінан, а віцэ-прэзыдэнтам — Уладыка Сіповіч.

*

## БЕЛАРУСКІ СЬВЯТАР СЯРОД АНГЕЛЬСКІХ ПАЛІЦЫЯНТАЎ

У сераду 10-га сакавіка а. А. Надсон быў госьцем каталіцкай арганізацыі лёнданскіх паліцыянтаў. Ён прачытаў ім даклад аб Усходнім Хрысьціянстве і расказаў аб працы Беларускай Каталіцкай Місіі ў Англіі. Даклад вызваў вялікае зацікаўленьне, але дакладчыку прышлося здорава папацець у часе пытаньняў. Слухачы, якія мелі вялікую практыку ў галіне допытаў, вымагалі на свае пытаньні ясных і вычарпальных адказаў. Як выглядала з пазьнейшай гутаркі, а. Надсон умеў вывязацца з гэтага нялёгкага заданьня вельмі добра.

З другой стараны дакладчык меў нагоду пазнаёміцца з пэўнымі старанамі жыцьця паліцыянтаў, якія звычайна ня ёсьць ведамымі шырокім колам грамадзянства.

Нямеччына

## СЬВЯТАЯ ЛІТУРГІЯ Ў ПАЙНЭ

У нядзелю 14-га лютага мітрафорны пратаерэй Уладімір Салавей у саслужэньні з а. дыяканам Пляцыдам Францам адслужыў сьв. Літургію ў прыхадзкой царкве ў Пайнэ каля Гановэру.

У часе сьвятой Літургіі рэктар Кэнігштайнскай Сэмінарыі, пралат Франц Ганзэ сказаў зьмястоўнае казаньне. Ён гаварыў аб новых мучаніках за веру, каталіках і праваслаўных, якія ў часе камуністычнага прасьледу рэлігіі сваім жыцьцём засьведчылі сваю веру ў Бога.

Царква была перапоўненая вернікамі, сярод якіх было таксама нямала пратэстантаў. Хор студэнтаў Кэнігштайнскай сэмінарыі, які прыгожа сьпяваў у часе сьв. Літургіі, на заканчэньне засьпяваў «Магутны Божа».

## АГЛЯД БЕЛАРУСКАЙ ПРЭСЫ

ЗЬНІЧ — ŹNIČ: Лістапад-Сьнежань, 1964 год, № 80. Увесь нумар пасьвячаны ў памяць Пілігрымкі Папы Паўла VI на Эўхарыстычны Кангрэс у Індыі. Чатыры вялікія прыгожыя здымкі.

АБ'ЕДНАНЬНЕ: Лёндан, № 2 (104) Сакавік 1965 г.

БАЦЬКАЎШЧЫНА: № 1 (628) Студзень-Люты, 1965. Артыкул аб калгасах і саўгасах Беларусі паказвае фатальнае палажэньне працоўных: з прычыны «перавысшанай тэхнікі», браку запасных частак і дзівоснай спэцыялізацыі — гаспадарка ўваходзіць у непамерныя даўгі. Гэта абцяжвае ўсю калгасную машыну і мучыць людзей.

СЯЎБІТ — SIAUBIT: 1965, Сакавік-Красавік, № 43. Вяліка-Літоўскі (Беларускі) двумесячнік. Нумар Вялікодны і «Дзеля БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА СЬВЯТА САКАВІКА».

*

У некатарых краёх Каталіцкая Царква мае вандроўныя сьвятыні-аўтабусы, на якіх сьвятары параяжджаюць нядзелямі: адведваюць па некалька пунктаў, каб даць людзям магчымасьць быць на набажэнстве.

Такую капліцу меў у горадзе Міляне, ў Італіі кардынал Монтіні, які стаў у 1962 г. Паўлам VI-ым. Такім аўтабусам высылаў сваіх сьвятароў у найдалейшыя ваколіцы, а нават часамі езьдзіў сам.

У Паўдзённай Амэрыцы такімі капліцамі бываюць маторныя лодкі, у якіх уладжаны аўтар: на берагу зьбіраюцца людзі і так адпраўляецца набажэнства.

## АДНА МІНУТА

У працягу адной мінуты родзіцца на сьвеце 120 дзяцей, а ўмірае 75 людзей.

Хто мае 70 гадоў, той пражыў 37 мільёнаў мінут, а ўсе яны ад Бога.

## МІСІЯ Ў АДНЫМ СЛОВЕ

Адзін малады друкар вельмі нудзіўся сваей працай: складаў літары (наборшчык) і жаліўся знаёмаму сьвятару.

Той пытае: «А колькі ты складаеш літараў удзень?»

«О, вялікія тысячы!»

«Дык ахвяруй кожную раніцу ўсе дзённыя літары Богу — ў якойколечы добрай інтэнцыі. Пабачыш, што твая праца паволі палягчэе.

Друкар толькі скрывіўся. Аднак за некалька дзён, спаткаўшы сьвятара, кажа:

«Сапраўды, тое, што Вы сказалі, пачало мне памагаць». —

А мы скажам, што добрая рада зьяўляецца «місіяй»: разумны чалавек зь яе скарыстае. Часамі толькі пасьля пражытых гадоў успомніць тое *добрае*, прыязнае слова.

## МАРОКО

Тут 600 асоб арыштавала паліцыя затое, што ламалі магамэтанскі пост «Рамадан». Адных злавіла паліцыя ў цягнікох, другіх у рэстаранах і сталоўках: ім далі ад аднаго да 6 месяцаў вязьніцы. У гэтым пасьце нельга нічога есьці да першай вячорнай зоркі.

Пост-Рамадан абавязвае ня толькі з рэлігійных, але з нацыянальных матываў, у ва ўсіх арабскіх краёх, апрача лібэральнага Тунісу.

## НЯМЕЧЧЫНА — ГОР. КЁЛЬН

На заканчэньне музульманскага сьвята Рамадан — 3-га лютага — каля 500 работнікаў туркаў сабраліся ў каталіцкім касьцеле — ў катадры, каб адправіць сваё маленьне. Яны, паводле свайго уставу, зьвярнуліся ў старану Мэккі, чыталі выняткі з Карану і, разаслаўшы свае дыванікі, аддавалі рытуальныя паклоны з малітвамі. Пасьля іхныя правадыры, імамы, дзякавалі катадральнай капітуле за братэрскае пазваленьне.

## ЗВАРОТ ДА ПАВАЖАНЫХ ЧЫТАЧОЎ

(Прыслоў'і рэдактара)

*1. Хто чытае і не плаціць,*
*Сябе гэтым не збагаціць!*
*А прытым і гонар траціць . . .*

*2. Сам рэдактар, съмеласьць меўшы,*
*Пісаць можа й недаеўшы:*
*А ўсё-ж мае ён надзею,*
*Што Чытач яго жалее,*
*І, работай спрасаваны —*
*Прышле ґрош запрацаваны . . .*

*Скажа: «ДЗЯКУЙ!» — (гэта важна!) —*
Чытачу ВІНЦУК АДВАЖНЫ

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

Е. К. Вэльлінгтон, Амэрыка. — На «Б. Шл.» залічана — паводле Вашае думкі, а рэшта таксама, як Вы напісалі. Дзякуем!

«Чытач» — Лёндан: — Дзякуем за прысланую крытыку: з увагаў, разважыўшы, скарыстаем.

Хв. Ш. Каліфорнія: Ліст атрымалі. Дзякуем! Аб той кніжцы украінскага прафэсара мы ня чулі. Добра было-б, каб Вы маглі нам яе прыслаць.

А. В. Лёс Анджелёс: 8-га лютага Вам выслана ўсё, паводле Вашае просьбы.

А. М. Канада. Дзякуем за фото! Усё, што Вы пішаце, вельмі важнае: пастараемся дастасавацца, паводле абставінаў.

М. М. Атрымалі 3 £, 11 ш. 5 п. — запісалі на «Б. Шл.». Дзякуем! Пісьма пры гэтым ня было. (Ільлінойс).

I. К-я, Нью Ёрк. Дзякую за ласкавы ліст! Здароўе рэдактара паправілася: зноў будзе дакучаць чытачам — найбольш, каб прысылалі належную падпіску.

А. В. Каліфорнія: 10 $ атрымалі: залічана перасылка — паводле просьбы — а 6 $ з цэнтамі — на «Б. Шл.». Вельмі дзякуем.

Яз. Ц. Англія. На «Б. Шл.». £ 1 і на Фонд — £ 5 — атрымалі. Дзякуем!

С-ей М. — Лёндан. £ 10 — на «Б. Шл.». Вельмі дзякуем!

В. Жук — Канада, 19 шыл, 10 п. на «Б. Шл.». Дзякуем!

А. В. Лёс Ангелес, 6 $ на «Б. Шл.». Дзякуем.

В. С. Дунхурх — Англія 1 £ на «Б. Шл.» і 5 £ — на Фонд Школы. В. Дзякуем!

Дж. Т. Лёндан на Фонд £ 2. Дзякуем.

К. К-скі, Судбуры, Канада — на «Б. Шл.» — 13 шыл. 2 п. Дзякуем.

В. Ст. Кент — Англія: £ 1 і 5 шыл. атрымалі на «Б. Шл.». Дзякуем.

а. М. Урбановіч, Марыянапаліс, Коннэктікут: Цешымся з Вашага добрага здароўя і з памыснага сьвяткаваньня Вашага ЮВІЛЕЮ 50-ці годзьдзя Сьвятарства. Жадаем Вам паводзінаў на новыя СТО ГОД!

Я. Ч. Чыкаго. Пакуль што квітуем абяцаныя 10 дал. і 5 дал., бо грошы яшчэ ня прыйшлі. Карэсп. «Весткі» атрымалі і друкем. Дзякуем за добрую памяць!

А. Ш. у Нью Ёрку. — 5 $ атрымалі. Дзякуем.

Сп-ры К. Нью Ёрк: 5 $ атрымалі. Дзякуем.

Сп-ня Л. Р. Канада. 10 $ атрымалі. Дзякуем.

I. П. Канада, Торонто. 15 $ за кніжкі «Кн. і Л.» атрымалі — вельмі дзякуем.

А. С. Тгорнбуры, Англія: 1 £ атрымалі на «Б. Шл.», дзякуем.

*

Рэдактар дзякуе ўсім Прыяцелям, што віншавалі з нагоды ягоных імянінаў і ўгодкаў нараджэньня (75 г. 4 (III 1965 г.).

ЗЬМЕСТ:



Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14.